# ПАГОНЯ

Цэна № — 1 аукс.

ГРАМАДЗКАЯ, ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Цэна за абвесткі:

1 стр. пэтыту на 2 стр. . . . . 3 мар.
„ „ „ 1 „ . . . . . 5 „
„ „ у тэксьце . . . . 8 „

**Адрэс рэдакцыі і канторы:** Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а. Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—3 гадз. Кантора адчынена што дзень ад 9—3 гадз.

**Падпіска каштуе:** на 10 № № ўпярод — 10 зал. „ 5 „ „ — 5 „ Кошт асобнага № — 1 „

**Рукапісы** ня прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачаваюцца па пагляду Рэдакцыі.

№ 18. | Коўна, Пятніца, 31 сьнежня 1920 г. | Год І-шы.


## ГРАМАДЗЯНІН!

На новы год усе робяць падарункі сваім родным, каб адзначыць гэты вялікі дзень. А хто найраднейшы, як ня Маці—Бацькаўшчына? Зрабі, Грамадзянін, падарунак Ёй, падпісаўшыся на

**Надзвычайны Заём.**

*31 сьнежня.*

## З Новым Годам!

Па традыцыі мы шчыра вітаем чытачоў з Новым 1921 годам і жадаем шчасьця і лепшай долі. Хай старыя цяжкія думкі набалеўшай душы адыдуць у Лету разам са старым годам, годам змаганьня і барацьбы.

Кожны пражыты год дае чэлавеку опыт знаньня, павелічае яго духоўны кругазор і ўносіць такія або іншыя прыклады. І гэты, адышоўшы ў вечнасьць год, навучыў нас многаму. Тая ўпартая барацьба, якую ўвесь мінуўшы год народ наш вёў за свае гістарычныя правы самаістнаваньня, вучыць нас, што і надалей мы не павінны апускаць рукі пры ліхіх выпадках, а моцна, плячом к плячу, праціўстаць усяму таму, што так ці іначай можа перашкаджаць добрабыту нашага працоўнага люду.

Мы хочам верыць, што гэты, новы год, дасьць нашаму народу спакой і магчымасьць узяцца за сваю мірную працу, каб залечыць балючыя раны, нанесеныя вайной і рознага роду акупацыямі.

З Новым Годам, Чытач, з новым шчасьцем!

◆◆◆◆◆◆

## Закон аб друку.

(Глядзі № 17).

**А. аб выдавецтве і выданьнях дзеля продажы выданьняў.**

### Б. Аб друку.

§ 11.

У кожным аднaчасовым выданьні павінен быць паказаны адрэс друкарні і ймя і прозьвішча рэдактара і выдаўцы.

§ 12.

Ўсякі выдавец чы рэдактар перыядычнага выданьня павінен, за два тыдні да выйсьця ў сьвет першага яго нумэру, падаць заяву Местоваму і Паветаваму чы Паветаваму Начальніку, паказаўшы: 1) мейсца, дзе выданьне будзе выхадзіць, 2) назову і зьмест перыядычнага воргану, які мае выхадзіць, 3) хто яго выдавец, 4) хто яго рэдактар, 5) адрэс іх і друкарні, у якой выданьне будзе друкавацца.

§ 13.

Адпаведаючым рэдактарам перыядычнага выданьня можа быць толькі грамадзянін Літвы, ня страціўшы на моцы судзебнага прысуду якіх-небудзь грамадзянскіх правоў і які ня быў караны судом за крадзеж і другія датычачыя асабістага гонару крымінальныя праступкі

§ 14.

Калі заяву, паказаную у § 12, падае асоба, якая сама адпаведаючым рэдакторам ня будзе, то да яе павінна быць далучэна заява самога адпаведаючага рэдактара, у якой належэ ўказаць, што ён згодзен быць такім і што дзеля гэтага ня маецца перашкод, паказаных у параграфу 13.

*Увага*: Адно перыядычнае выданьне можэ мець некалькіх адпаведаючых рэдактараў, дзеля чаго патрэбна дакладна паказаць, за які аддзел ці частку выданьня кожны з іх адпаведае.

§ 15.

Пры ўсякіх пераменах у варунках выдавецтва (§ 12—13), патрэбна хутка паведаміць аб гэтым па прыналежнасьці.

§ 16.

Выдаўцы, чы рэдактары тых перыядычных органаў, якія выхадзілі ў сьвет пры абвешчэньні гэтага закону, павінны, у тыднёвы тэрмін ад дня апублікаваньня яго ў газэце „Летува“, выканаць вымаганьні, паказаныя ў § 12—14. Калі-ж у варунках іх выдавецтва ёсьць такія, якія не адпаведаюць вымаганьням гэтага закону (§ 13 і інш.), то ім даецца месячны тэрмін, з дня яго апублікаваньня, дзеля перамены паказаных варункаў.

§ 17.

Усе экзэмпляры, вышоўшыя без дачасовай заявы воргану друку, хутка канфіскуюцца, і яго рэдактар, выдавец і ўпраўляючы друкарней, у якой ворган друкаваўся, належаць грашоваму штрафу ад 1000 да 5000 аўксінаў, а немаентныя-арэшту ад 1 да 3 месяцаў.

§ 18.

Калі ў заяве няма якіх-небудзь ведамак, паказаных ў §§ 12—14, то Местовы і Паветавы, чы Паветавы Начальнік, у трохдзённы тэрмін ад дня падачы заявы, апавешчае выдаўца аб недахватках, і дае яму сямідзённы тэрмін папраўкі. Выйсьце ў сьвет перыядычнага выданьня, у якім няма ўсіх вымагаемых гэтым законам ведамак, цягне за сабой скуткі, паказанныя ў § 17.

§ 19.

Справы па прэступленьням, прадугледжаным у Уставе аб карах, а так сама проці Часовай Канстытуцыі Літоўскай Дзяржавы, пачынае Местовы і Паветавы, чы Местовыя Начальнікі і Дзяржаўны Пракурор.

Калі справа падсудна Акружнаму Суду, то Начальнік (Местовы і Паветавы чы Паветавы), пачынаючы яе, мае права затрымаць распаўсюджываньне аддрукаваных ужо экзэмпляраў і далейшае друкаваньне гэтага перыядычнага воргану. Яго прыказ павінен быць хутка выканан, але аднaчасова павінен быць прэдстаўлен Дзяржаўнаму Пракурору, які яго зацьверджае, чы адменяе.

§ 20.

Справы па прэдстаўленьням, якія датычуць рэлігіі, паднімаюць прэдстаўнікі цэрквы, калі у гэтых дзеяньнях няма наагул складу праступленьня.

§ 21.

Ведамкі, сабраныя пры сьледству ці іншым шляхам, ня могуць быць апавешчаны ў друку да таго часу, пакуль справа ня рэшана, чы ня прэкрашчэна судом.

§ 22.

Калі справа судом разьбіралася пры закрытых дзьвярох, то ў друку можа быць апавешчана толькі рэзалюцыя суда, чы тыя абставіны справы, якія дазволіць апавешчаць быўшая на судзе старшынёй асоба.

§ 23.

Міністру—Старшыне астаўляецца права недазволіць прывазіць з-закардону і распаўсюджываць у Літве творы друку, супярэчныя стварэньню незалежнай Літоўскай Дзяржавы.

§ 24.

Паветавы, чы Меставы і Паветавы Начальнік, паднімаючы справу аб друкаваньні і распаўсюджываньні тых твораў друку, якія сваім зьместам, чы ілюстрацыямі абражаюць моральнае пачуцьцё і добрыя засады, канфіскуе іх у ўласьніка і заховывае у сябе да вырэшэньня суда.

